Новыя вершы

**БАЦЬКАЎШЧЫНЕ**

*Радзімы вецер,*
*Ты з усіх вятроў*
*Мне як натхненне,*
*Як шчаслівы подых.*
*Ёсць доўгі шлях,*
*Дзе мы — як параходы,*
*Вяртаемся да родных*
*Берагоў.*
*Удалечыні*
*Прыйшлося столькі жыць*
*І слаць сябрам*
*Паклоны у канверце...*
*Ёсць міг такі,*
*Калі не страх памерці,*
*А страх —*
*Цябе ў баю не засланіць.*

Яўгенія Янішчыц


# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 41 (972) ГОД XIX 13 КАСТРЫЧНІКА 1974 г. ЦАНА 60 гр.


**Усім педагогам — нашым найбліжэйшым сябрам і памочнікам у культурна-грамадскай дзейнасці — з нагоды настаўніцкага свята шлем самыя сардэчныя прывітанні і пажаданні задавальнення ў працы і ў асабістым жыцці.**

**ПРЭЗІДЫУМ ГП БГКТ**
**Рэдакцыя „НІВЫ“**



З ПЕСНЯЙ НАСУСТРАЧ XXX-ГОДДЗЮ ПНР



**ДУЭТ З ГРЭДАЛЁЎ**
**Удзельніцы сёлетняга фінальнага агляду БГКТ Вера Бранько і Надзея Мазурук з Грэдалёў Бельскага павету.**
**Фота А. Карпюка**

# У маленькай школцы

Пачатковая чатырохкласная школа ў Сацах у Нараўскай гміне Гайнаўскага павету складаецца ўсяго з дзевяці вучняў і адной настаўніцы-кіраўніка. Абшырны будынак, добра забяспечаныя мэбляю і вучэбнымі дапаможнікамі класы, чысціня і парадак. З аднаго боку непадалёк абшырнага школьнага панадворка пачынаецца сасновы лес, а з другога, за рачулкай — у засені прысадаў дрэмле сяло.

— Сама я паходжу з Пасечнікаў Вялікіх, што каля Арэшкава на Гайнаўшчыне, — прыгадвае настаўніца сацоўскай школы **Надзея Міхальчук.** — У 1966 годзе закончыла Гайнаўскі беларускі ліцэй. Маім выхавацелем быў наш сардэчны прыяцель і любімы настаўнік беларускай мовы Васіль Сакоўскі. З вялікай прыемнасцю ўспамінаю яго ўрокі. Ён лічыў, што ў мяне ёсць дар мастацкага чытання, і дзе што якое — заўсёды ка мне: „Надзя, ты нам гэта ўголас прачытай“. Пасля ліцэя паступіла я на аддзяленне рускай філалогіі Настаўніцкай студыі ў Беластоку і там займалася пад кіраўніцтвам таксама шчырага прыяцеля студэнцкай моладзі, кіраўніка аддзялення Мікалая Бармуты. Пасля абароны дыплома вярнулася я на маю родную Гайнаўшчыну. Адзін год працавала ў школе ў Койлах, а вось ужо пяты год — у Сацах.

— І як вам тут падабаецца?

— Добра. Дзеці старанлівыя і працавітыя. Бацькі да настаўнікаў і школы вельмі прыхільныя. Раней нас тут працавала болей, але ад верасня засталося толькі чатыры класы і адзін настаўнік, а ў будучым годзе школа будзе ліквідавана. Класы злучаныя, таму ад настаўніка патрабуецца асабліва многа працы і добрай падрыхтоўкі да ўрокаў, бо кожная хвіліна ў час заняткаў мае вялікую вартасць. Імкнуся дакладна растлумачыць матэрыял аднаму класу, грунтоўна замацаваць яго, і толькі тады пачынаю працаваць з другім класам. Гэта лягчэй выходзіць у класах III-IV, але значна цяжэй даецца ў класах I-II. Стараюся, каб вучні ўвесь матэрыял засвоілі на ўроку. Хатняй работы задаю мала і толькі з таго, што ўжо належна апрацавана ў школе. Дзеці цікавяцца часопісамі і кнігамі, многа чытаюць. Вось аб'яўляю чытальніцкі конкурс. На калідоры вывешу спецыяльны графік з індывідуальнымі вынікамі чытальніцтва. Гэта будзе яшчэ болей мабілізаваць да кнігі маіх чытачоў. Прымаем удзел у конкурсе „Сёння ашчаджаю ў СКО, заўтра — у ПКО“. Нашы зухі, хоць іх і нямнога, спраўляюцца добра. Стараюся знаходзіць ім розныя цікавыя гульні, падказваю карысныя і выхаваўчыя заняткі. Хоць, скажу вам па шчырасці, гэта не такая лёгкая справа — для 4—5 дзяцей знайсці цікавую забаву ці іншы занятак. Ходзім таксама на экскурсіі ў лес.

— А што з беларускай мовай?

— Тры гады таму назад з-за нядбайнасці папярэдняга кіраўніка школы было тут спынена навучанне беларускай мовы. Але сёлета мы правялі з дырэктарам трасцянскай васьмігодкі, філіялам якой з'яўляецца наша школа, выясняльную працу сярод бацькоў і ўсе яны выказалі пажадан-

(Працяг на стар. 3)



*Надзея Міхальчук са сваімі выхаванкамі.*
*Фота М. Гайдука*

# Крокі супрацоўніцтва

Чаму іменна ў Беластоку адбыўся Фестываль дружбы польскай і савецкай моладзі? — з такім пытаннем звярнуўся адзін з журналістаў цэнтральнага друку на прэс-канферэнцыі. Адказ Станіслава Цёска, старшыні Галоўнага праўлення Федэрацыі сацыялістычных саюзаў польскай моладзі быў ясны і кароткі. — Бо Беласточчына мае найлепшы вопыт і найбольшыя дасягненні ў галіне супрацоўніцтва з савецкай моладдзю.

Непасрэдныя кантакты беластоцкай моладзі з Камсамолам распачаліся яшчэ ў 1962 годзе. Іменна тады ўпершыню гарадское праўленне ЗМС у Беластоку і гарадскі камітэт Камсамола ў Каўнасе абмяняліся пяціасабовымі дэлегацыямі актыву рабочых. Ад гэтага часу такія дэлегацыі штогод бываюць на Беласточчыне, сустракаюцца з маладымі рабочымі нашых заводаў, маладой інтэлігенцыяй і школьнай моладдзю. У іх склад уваходзяць актывісты ЗМС і Камсамола з розных заводаў і прадпрыемстваў. Гэта дало пачатак устанаўленню кантактаў паміж прадпрыемствамі, якія маюць падобны профіль прадукцыі, з Каўнаса і Беластока.

Цікавыя формы супрацоўніцтва вядуць гарцэры Беластоцкай харугвії. Перапіска паміж равеснікамі з Польшчы і Савецкага Саюза, здабыванне спраўнасці „Пасол дружбы“, прыгранічныя сустрэчы, а таксама бездэвізовы абмен піянерскіх і гарцэрскіх груп

(Працяг на стар. 4)

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "Ніве"



СІБІРСКІЯ БАЛАДЫ

# Знаёмства з Цюменню

Дзевятнаццатага ліпеня. Раніцай выходжу з гасцініцы. Горад заліты сонцам. Перад гасцініцаю скверы, засаджаныя кветкамі. Далей 4- 5-павярховыя дамы.

А дзесятай гадзіне за намі прыехалі аўтобусы. Усе пісьменнікі занялі ў іх месцы. Кранаемся з месца. Экскурсаводы пачынаюць расказваць аб горадзе. Цюмень была заснавана ў 1586 годзе. Многія гады была яна перасыльным пунктам царскіх ссыльных і катаржнікаў. Да рэвалюцыі Цюмень называлі „сталіцай вёсак“. Яшчэ ў 1916 годзе Цюмень налічвала толькі 56.000 жыхароў. Ужо ў перыяд першай рускай рэвалюцыі 1905 года, а тым больш у перыяд Кастрычніка мясцовы рабочы

(Працяг на стар. 4)



*Арыгінальны мост праз раку Туру ў Цюмені.*

# КРОКІ СУПРАЦОЎНІЦТВА

(Працяг са стар. 1)

у час летніх канікулаў — сталі пастаяннымі пунктамі праграмы супрацоўніцтва.

Нашы гарцэры ўдзельнічалі ў турніры ведаў „Ленін — Краіна Саветаў — Піянерская арганізацыя імя Леніна“. 3496 гарцэрскіх атрадаў (застэмпаў) прыняло ўдзел у спаборніцтве за вымпел Ленінскага года. Гарцэры Беласточчыны выканалі грамадскі чын „Узорам ленінскіх суботнікаў — чын нашай школе, гораду і вёсцы“. Вартасць гэтага чыну — 950 тыс. злотых. У харугвяным конкурсе на 100-ую гадавіну з дня нараджэння У. Леніна зухі выканалі 1245 хронік аб працы акцябрат, гарцэры — 1213 складанак, ілюструючых змест прачытаных кніжак аб правадыры Кастрычніцкай рэвалюцыі, а гарцэры са звышпачатковых школ 2624 тэматычныя альбомы і плакаты.

Іншай формай супрацоўніцтва піянераў і гарцэраў з'яўляюцца прыгранічныя сустрэчы, арганізаваныя рознымі паветамі. Ужо сем год у Кузніцы Беластоцкай Сакольскага павету адбываюцца злёты моладзі прыгранічнай зоны.

У 1969 годзе, калі мы святкавалі 25-ую гадавіну ПНР, у лагеры шчэпу ЗГП „Бліскавіца“ ў Сухой Жэчцы каля Аўгустова прабывала 30 піянераў з БССР. У 1970-74 гадах гэты ж шчэп у рамках пагаднення аб супрацоўніцтве паміж гуфцам ЗГП (горад Беласток) і піянерскай арганізацыяй Каўнаса вялі пастаянны абмен 30-асабовымі групамі з польскага і савецкага боку. У 1973 годзе гуфец з Алецка наладзіў сувязь з піянерамі з Вілкавышак Літоўскай ССР і запрасіў 12-асабовую групу піянераў у свой лагер у Можнях каля Алецка.

Піянеры, пабываўшыя ў нас, наведваюць сталіцу нашай краіны — Варшаву, помнікі старажытнасці Беластока і цікавыя куткі Беласточчыны. Кожная пабыўка піянераў у нас дае магчымасць гарцэрам шырока пазнаёміцца з формамі і метадамі піянерскай работы, а таксама дазваляе навучыцца гульням і песням піянерскай арганізацыі. Тут пачынаецца дружба і супрацоўніцтва, якія потым працягваюцца пры дапамозе карэспандэнцыі. Міжнародныя лагеры з'яўляюцца неадлучным элементам у рэалізацыі інтэрнацыянальнага зместу ў працэсе сацыялістычнага выхавання маладога пакалення.



*Перагаворы беластоцкай і гродзенскай дэлегацый у час Фестывалю дружбы.*

Розныя формы супрацоўніцтва з Камсамолам праводзяць паасобныя студэнцкія праўленні беластоцкіх вузаў. Нашы студэнты знаёмяцца з дасягненнямі савецкай медыцыны і тэхнікі. Медыцынская акадэмія ў Беластоку многа год ужо супрацоўнічае са студэнтамі Гродна, Каўнаса і Сімферопаля. Кантакты Вышэйшай інжынерскай школы з савецкімі вузамі наладзіліся нядаўна. ВСІ наладзіла сувязь з палітэхнічнымі інстытутамі Рыгі, Мінска і Каўнаса. Філіял Варшаўскага універсітэта імкнецца наладзіць супрацоўніцтва з Педагагічным інстытутам у Гродна.

Дні дружбы польскай і савецкай моладзі, а таксама беластоцкі Фестываль паказалі, што кантакты моладзі павінны быць шырэйшыя. У час сустрэчы прадстаўнікоў Федэрацыі моладзі нашага ваяводства і дэлегацыі Камсамола Беларусі Гродзенскай вобласці асабліва падкрэслівалася патрэба пашырэння абмену групамі маладых перадавікоў працы тэкстыльнай і цяжкай прамысловасці, будаўніцтва, сельскай гаспадаркі. Дакументы ў гэтых справах будуць падпісаны ў час пабыўкі ў Гродна дэлегацыі нашага ваяводскага праўлення Федэрацыі ў палове кастрычніка гэтага года.

**А. Карпюк**
фота аўтара

# ПРАЦАВІТАСЦЬ АПЛОЧВАЕЦЦА

Сяляне з вёскі Ляўданшчына ў Дуброўскім павеце паказалі найлепш, як многа добрага можна зрабіць супольнымі намаганнямі. Найперш узяліся яны за парадкаванне грамадскім чынам вясковай вуліцы на ўсёй яе даўжыні. Пабудавалі новую агароджу і праклалі хаднікі. Але па чарзе. Найперш прывезлі дастатковую колькасць жвіру, пабудавалі цокалі і паставілі стоўбікі. ПОМ у Дуброве пабудаваў агароджу, а яны памалявалі яе рознаколернай алейнай фарбай. Тады падлічылі вартасць грамадскай працы. Атрымалася нябла-га. Больш 600 тысяч злотых.

За свой грамадскі чын і грамадскую ініцыятыву ляўданскія сяляне былі двойчы ўзнагароджаны. Вёска Ляўданшчына заваявала першае месца ў ваяводскім конкурсе „Беластоцкая вёска — гаспадарная і культурная“, атрымоўваючы ўзнагароду — 150 тысяч злотых. Заняла яна таксама першае месца ў гэтым конкурсе ў Дуброўскім павеце і атрымала наступную грашовую ўзнагароду — яшчэ 100 тысяч злотых.

Цяпер вёска Ляўданшчына з'яўляецца самай прыгожай вёскай на Дуброўшчыне. Прыемна прайсціся шырокай вуліцай, паабапал якой стаяць пахучыя свежай фарбай платы. Пах гэтых зліваецца з пахам кветак у агародчыках і спелых пладоў у садах. (ця)

# ЗНАЁМСТВА З ЦЮМЕННЮ

(Працяг са стар. 1)

клас выказаўся значнай актыўнасцю. Зараз Цюмень налічвае больш 300.000 жыхароў. У горадзе знаходзіцца 65 прамысловых прадпрыемстваў. Прадукцыя заводаў Цюмені вядомая не толькі ў СССР, але і ў 50 замежных краінах. Едзем па горадзе, час ад часу затрымліваемся. Шырокія вуліцы, многа зелені, новыя дамы. Але пападаюцца і дамы старыя, драўляныя, тыпова сібірскія, з круглякоў, з вялікімі вугламі і з разьбой над вокнамі. Затрымліваемся ля царквы. Уваходзім у сярэдзіну. У царкве прыгожая роспісь. На сценах незвычайнай прыгажосці іконы. Выходзім, сядаем у аўтобус. Едзем на раку Туру. Затрымліваемся ля доўгага мосту. Спецыфіка яго ў тым, што галоўная яго частка пабудавана з дрэва. Едзем далей, затрымліваемся каля адной з вышэйшых навуковых установаў. Пры нагодзе даведваемся, што ў Цюмені іх шэсць і што працуе ў іх каля 400 кандыдатаў і дактароў навук.

А пятнаццатай гадзіне, пасля абеда, паказваюць нам тры каляровыя дакументальныя фільмы аб пошуках нафты ў Цюменскай вобласці. Глядзім фільмы, знятыя летам і зімой. Можна было б іх назваць фільмамі аб зялёным і белым пекле. Паказана тайга, непраходныя балоты, гразь, вада, лёд, снег, тэхніка, дзіўныя машыны, канструкцыі, буравыя вышкі, трубы, узрывы дынаміту і веееры чорнай зямлі, вады або снегу. І людзі цвёрдыя, упартыя на вышках, на верталётах. Уся гэта магутная сіла наступае на тайгу, на ваду, рвецца ў глыб зямлі, якая хавае сваё вялікае багацце — нафту. Урэшце бачым магутныя фантаны нафты і трыумфальную радасць на тварах людзей, якія вырвалі яе з нетраў зямлі. Усё гэта робіць уражанне чагосьці фантастычнага, казачнага і разам з тым дазваляе верыць у сілу і вялікія магчымасці чалавека ў барацьбе з прыродай.

Час ад часу мяняецца настрой фільмаў. Паказаны каляровыя сібірскія пейзажы. Геолагі пры вогнішчах, усмешкі дзяўчат. Пасля паказваюцца новыя дамы і будынкі. І ўрэшце здымкі нейкага клуба.

На сцэне аркестр. Маладыя хлопцы паслугоўваюцца электроннымі музычнымі інструментамі. Іграюць нейкую суперсучасную мелодыю. У зале моладзь хістаецца ўправа, улева, назад і наперад у сучасным, „еўрапейскім“ танцы. І раптам камера зноў вяртаецца на сцэну і паказвае аркестр „знізу“, ад ног. Ногі музыкантаў у арыгінальных валёнках з аленіх шкур. Значыць, і тут захаваўся сібірскі элемент.

Канец фільмаў, адкрыты вокны. Выходзім на вуліцу.

**Алесь Барскі**



*Традыцыйны драўляны дом у Цюмені з вялікай колькасцю вокан.*

Беларуская літаратура — Аляксанар Баршчэўскі

# Нашаніўская пара

## МАКСІМ БАГДАНОВІЧ — ЧАСТКА XXI

**Фальклорныя творы.** Зоймемся апошняй групай вершаў, якія адносім да фальклорнага цыкла. Да гэтай групы належаць наступныя вершы: „Мушка-зелянушка і камарык — насаты тварык“, „Бяседная“, „Страцім-лебедзь“. Што з'яўляецца найбольш характэрнай рысай гэтай групы вершаў? Тое, што ва ўсіх творах гэтай групы героямі з'яўляюцца насякомыя або птушкі. Свет насякомых і птушак вельмі багата прадстаўлены ў беларускім песенным фальклоры. Часта насякомыя і звеы — гэта сімвалы людзей, сімвалы чалавечых характараў і чалавечых паводзін. Часта аднак маем дачыненне з паэтызацыяй насякомых і птушак без якіх-колечы грамадскіх падтэкстаў. Багдановіч пераносіць чалавечую звычаёвасць і абраднасць у свет жыцця насякомых і птушак і наадварот — пры дапамозе насякомых і птушак паказвае некаторыя з'явы чалавечага жыцця. У гэтых адносінах вельмі характэрны верш, а можа лепш сказаць паэма „Мушка-зелянушка і камарык — насаты тварык“. Твор гэты напісаны на канве вядомай народнай песні аб камары, які ажаніўся з мухай. Паэмка „Мушка-зелянушка і камарык — насаты тварык“ гэта фальклорны эцюд, якому Багдановіч даў падзагаловак „Вельмі жаласная гісторыя, выкладзеная згодна з праўдай беларускім вершам“. Паэмка складаецца з шасці частак і з шасці сцэнак. Яна мае характар народнага спектакля. Першая частка гэтага спектакля — гэта уверту-ра, уступ, у якім гаворыцца аб бесклапотным жыцці камароў, другая частка расказвае аб пастанове закаханага камара ажаніцца з мухай, трэцяя частка паказвае нам працэс сватання камара ў хаце мухі, у чацвёртай частцы гаворыцца аб падрыхтоўцы вяселля і аб вясельнай урачыстасці. Усе гэтыя часткі ўтрыманы ў вясельным, радасным настроі. У пятай частцы радыкальна мяняецца настрой. Гэтая частка ілюструе сямейнае жыццё камара і мухі. Гэтая частка паэмкі дасканала гарманізуе з народнымі сямейнымі песнямі, у якіх наогул дамінуе журботны тон. Паглядзім на жыццё жанатага камара:

„Абляцелі кветачкі
Не ў пару.
Невясёла шэраму
Камару.
Як пачаў ён параю
З мушкай жыць —
Давялося беднаму
Патужыць.
Не умее мушачка
Працаваць,
Толькі ўмее з хлопцамі
Жартаваць;
Ані выткаць кросенкі,
Ані шыць,
Ані стравы хораша
Наварыць.
Паштурхаў камарычак
Галаву:
„Як я з гэтай жонкаю
Пражыву?“

Апошняя частка твора адлюстроўвае канец драмы. Камарык падае з дуба і забіваецца на смерць. Камара хаваюць, сыплюць посып. Усе прахожыя думаюць, што ў магіле ляжыць вяльможа або генерал, а там ляжыць камарык. І гэтая частка твора даволі верна паўтарае матыў народнай песні.

Несумненна, у гэтым творы ёсць сацыяльны падтэкст. Пісьменнік у жартаўлівай форме паказвае каляіну жыцця маладога чалавека, якога пачатковая радасць і аптымізм даводзяць да канчатковага песімізму і драмы. У жыцці чалавека такія гісторыі не рэдкія, і таму можам гаварыць аб сувязі твора з жыццёвымі рэальнасцямі. Варта падкрэсліць дасканалую вобразную сістэму гэтага твора, дзякуючы якой паэмка надаецца да ілюстрацыі.

Нельга аднак гэтага сказаць аб вершы „Бяседная“, які ў сваёй тэматыцы і ў сваёй вобразнай сістэме не мае той яснасці і камунікатыўнасці, якія характарызуюць „Мушку-зелянушку і камарыка...“

Цікавым і арыгінальным творам, які выказвае сувязь з народнай паэзіяй, з'яўляецца верш „Страцім-лебедзь“. Твор гэты займае пераходную пазіцыю паміж рэлігійнай і народнай літаратурай. Можам яго назваць апокрыфам, гэта значыць такім творам, у якім народ нязгодна з афіцыйнай царкоўнай ідэалогіяй інтэрпрэтуе розныя рэлігійныя праблемы. „Страцім-лебедзь“ — гэта легенда, гэта сумная пахвальная песня аб моцнай і гордай індывідуальнасці. Змест твора просты. У часе патопу горды птах Страцім-лебедзь не пайшоў на Ноеў каўчэг, бо верыў у сілу сваіх ног і крылаў. Аднак насела на яго многа птушак, і лебедзь згінуў пад іх цяжарам. Стылістыка твора паслядоўна народная; як у песні, як у быліне, як у казцы, выступае тут узмоцненая, гіпербалічная характарыстыка:

„Страцім-лебедзь — горды моцны птах.
Яго звычаі — арліныя,
Яго ўцехі — сакаліныя;
Пер'і-пер'ечкі бялеюцца
Ды на золаку агнявеюцца.
У яго ў крыле — трыста тры пяры:
Узмахне крылом — быццам бор шуміць,
Узмахне другім — што мяцель гудзіць“.

Вось гэтак характарызуюць герояў дасканалыя народныя казкі. З іх мастацтва і пачарпнуў Багдановіч спосабы характарыстыкі Страцім-лебедзя, які быў для пісьменніка сімвалам гордага чалавека, можа пісьменніка-творца, які гіне ад чалавечай абыякавасці, эгаізму, а можа ад прыгавору лёсу.

ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

# ВАСІЛЬ ГРЫГАРУК



Адным з самых працавітых і вопытных гаспадароў у гміне Нараўка з'яўляецца селянін Васіль Грыгарук — ураджэнец Новага Ляўкова Гайнаўскага павету. Мае ён прыгожыя сельскагаспадарчыя будынкі і дом. Працу на гаспадарцы аблягчае пры дапамозе шматлікіх уласных сельскагаспадарчых машын: касілкі, зграбалкі, электрарухавіка, млынка-сьрутоўніка, электрычнага парніка і іншых.

Васіль Грыгарук — прыкладны жывёлавод. Гадуе дзесяць кароў, ад якіх прадае дзяржаве 10-12 тысяч літраў малака ў год. Апрача таго, на пункты скупкі дастаўляе штогод у сярэднім сем свіней, адну тону жыта і аўса, а таксама дзве тоны бульбы.

Передавы ляўкоўскі гаспадар вядзе доследныя палеткі з жытам „Пулаўскае", аўсом „Пшэбуй II" і бульбай „Уран". У бліжэйшыя гады намераны ён заняцца перш за ўсё гадоўляй малочных кароў.

Васіль Грыгарук дадаткова выконвае абавязкі злеўняра (выконвае гэтую функцыю ўжо дзесяты год), члена рэвізійнай камісіі мясцовага сельскагаспадарчага гуртка (раней на працягу двух гадоў быў дыспетчарам), вядзе кантрактацыю збожжа і хатняй жывёлы, а таксама продаж мінеральных угнаенняў (чацвёрты год).

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**

# ФАЛЬКЛОР

СЯМЕЙНАЯ



Ой, там на го-рэ, ой, там на кру-



той, Ой, там сы-діе-ла па-ра га-лу-



боў, Ой, там сы-діе-ла па-ра га-лу-боў.

*Ой, там на горэ, ой, там на крутой,*
*Ой, там сыдіела пара голубоў.*
*Ой, там сыдіела пара голубоў.*
*Сыдіелі воны, обнімаліся,*
*Сызымі крыльямі накрываліся,*
*Сызымі крыльямі накрываліся.*
*Скуль взявся стрылец,*
*стрылец-молодэц*
*Розбій-розлучыў пара голубоў,*
*Розбій-розлучыў пара голубоў.*
*Голубка нэ іест, голубка нэ п'е,*
*Всё на круту горушку плакаты йдэ,*
*Всё на круту горушку плакаты йдэ.*
*Сыпют пшэныцю, ставят водыцю:*
*— Ты еш, голубка, бо вжэ вдовіця,*
*Ты еш, голубка, бо вжэ вдовіця.*
*— Нэ буду есты, нэ буду пыты:*
*Забыў голуба — нэма з кім жыты,*
*Забыў голуба — нэма з кім жыты.*
*Забыў голуба — нэма з кім жыты.*
*Нагнаў голубоў сто двацать штыры,*
*Нагнаў голубоў сто двацать штыры,*
*Нагнаў голубоў сто двацать штыры:*
*— Выбірай, голубка, которы мілы,*
*Выбірай, голубка, которы мілы.*
*— Я й выбірала, пэрэбірала —*
*Нэма і нэ будэ — кого любіла,*
*Нэма і нэ будэ — кого любіла.*
*Бо мой міленькі — чорнобровэнькой,*
*Лічко румяное, сам молодэнькой,*
*Лічко румяное, сам малодэнькой.*

Ад Марыі Крук, 1930 года нараджэння, вёска Тапчыкалы, Бельскага павету, запісаў 12 жніўня 1974 года Мікалай Гайдук. Нотны запіс з магнетафоннай стужкі зрабіла Людміла Панько.

ТАК БЫВАЕ...

# На сваю голаў

Бацька добра гаспадарыў. Памагала яму дачка ва ўсіх работах. Любіў ён яе і часта думаў, каб прыняць прымака, каб выдаць яе замуж за добрага чалавека. Ведаў ён добра, што дачка невымагальная, што паслушная, ды не прыгажуня. І, часта бываючы ў суседніх вёсках, заводзіў размову наконт добрага чалавека, які б разам з ім і дачкою захацеў гаспадарыць. І вось аднойчы паехаў ён да млына і там сустрэў маладога чалавека з-пад Беластока, якому расхваліў і дачку, і гаспадарку, і ўсё ўсянюткае, а асабліва захапляўся перад ім працавітасцю дачкі. Малады чалавек і чарку выпіў самагонкі з будучым цесцем, і бацькам яго пачаў называць, і дагаварыўся ў наступную нядзелю прыехаць у Кубешы, каб пазнаёміцца са сваёй будучай жонкай. Развіталіся яны ў млыне, як самыя блізкія людзі і нават пацалаваліся. Прыехаўшы дамоў, расказаў бацька ўсё гэта дачцы і разам з ёю пачалі рыхтавацца да прыёму будучага мужа і зяця. Дачка вокны памыла і падлогу, і павуціннe паздымала, і падушнікі папрала, і пудру купіла, і нават манікюр на ногцях зрабіла.

Прыйшла нядзеля, і прыехаў Стасё. Прывітаўся з цесцем, пацалаваў яго; і Марысю прыабняў і пацалаваў. Яна разрумянілася, і стала ёй ніяк дзіўна, прыемна і сорамна, бо яшчэ ніколі не цалаваў яе малады чалавек. Пацалунак уяўляла яна сабе святасцю, а тут усё так проста. Стась быў гаваркі, па словы ў кішэню не лазіў, ды выглядаў нядрэнна, так па-гарадскому, з доўгімі валасамі і запушчанымі бакенбардамі. Стаў распытваць у Марысі аб працы на гаспадарцы. Яна расказвала, і яму падабалася асабліва тое, што яна ад усходу да заходу сонца працуе, даглядае дабытак, і ў палявых работах без яе не абыходзіцца.

Бацька курыў папяросу, і з задавальненнем глядзеў на іх, седзячых на лаве, у думках сам сабе гаварыў: выбраў дасканалага зяця. Шчасце напаўняла яго душу і ён лагодным тонам звярнуўся да дачкі: „Рыхтуй стол, Марыся".

Пачастунак быў падрыхтаваны, і Марыся хуценька паставіла яго на стол, нават смачных пышкаў прынесла ў вялікай місцы. І пачалі есці і піць. Стась пасля пятай чаркі стаў гаварыць, што ён кахае Марысю, што страшэнна горкая гарэлка сёння, і стаў цалаваць Марысю.

Стала вечарэць, цесць п'яны заснуў на прыпечку, а Стась з Марысяю фліртаваў на ложку. Нават дамоў не паехаў. І ўліпла Марыся, як муха ў смятану. Усё ішло ў напрамку жаніцьбы. Вяселле адбылося хутка. Пайшло штодзённае працавітае жыццё. Але працаваць Стась не любіў. Усё рабіла Марыся са сваім бацькам, а Стась любіў толькі камандаваць і глядзець, як працуе дачка з бацькам. І нервы бацькі не вытрымалі. Выбухнуў ён вялікім крыкам на зяцягультая і трутнем яго назваў. І з гэтага часу пачалася нязгода ў хаце. Аднойчы вечарам разгарэлася сварка, а калі яна прыціхла і стары пайшоў спаць, Стась прынёс дубінку і спячага цесця ўдарыў некалькі разоў па галаве так, што ён ужо не падняўся з ложка. Марыся так перапалохалася, што рабіла ўсё, што Стась казаў. Разам вынеслі яны забітага ў хлеў, абвінулі гунькаю і прыкрылі гноем, а назаўтра паехалі ў лес і ў рове выкапалі яму, у якую прывезлі пасля цела бацькі і цесця. Плакала Марыся, але са страху была паслушная мужу, баялася, каб і яе ён не ўгробіў.

Не стала старога, адбываліся яго пошукі. Можа аб яго страшнай смерці ніхто б і не даведаўся, каб Марыся не пашчырнічала перад сваім сваяком, каб не сказала па сакрэту, што здарылася з яе бацькам. Сваяк заявіў міліцыі, і адкапалі цесця. Марыся пахавала яго на могілках, а Стась пайшоў у турму.

**М. Хмялеўскі**



(Працяг са стар. 3)






*Андрэй Міхноўскі.*

пад канец жніўня 1944 года, завітаў да нас прадстаўнік Люблінскага Камітэта Нацыянальнага Вызвалення. Добра ўжо не памятаю, але здаецца, што быў гэта афіцэр Войска Польскага. Ён перш за ўсё адшукаў даваеннага войта нашай гміны. Быў ім **Мікалай Праховіч**, селянін з суседняй вёскі Валкі. Пасля склікаў ён невялічкі сход партыйных жыхароў Мілейчыц і навакольных вёсак. Так устанавілася ў нас гмінная ўлада.

Андрэй Міхноўскі зацягнуўся папяросай і зноў адгукнуўся:

— Аж не хочацца верыць, што з гэтага часу прайшло ўжо 30 гадоў...

Людзей з адукацыяй у Мілейчыцах тады не было. Хто ўмеў чытаць і пісаць, лічыўся ўжо вялікім грамацеем. А ў Андрэя Міхноўскага была нават няпоўная сярэдняя адукацыя. Таму яго і прыцягнулі да працы. Людзі памяталі, што ў час акупацыі ён, як працаўнік амсткамісарыята, дапамагаў партызанам у афармленні розных дакументаў, што ў час савецкай улады займаўся ён вясковым кааператыўным гандлем. Дык і тады, летам 1944 года, даверылі яму гэтую ж галіну.

— Прыклад мы бралі з кляшчэлеўцаў, — расказвае Андрэй Міхноўскі, — там яны ўжо мелі гмінную спулдзельню сялянскай самапомачы. У нас старшынёю выбралі Антона Пракапчука, а Пётр Астапковіч і Мікалай Аксентовіч сталі членамі праўлення. Я — як найбольш з іх адукаваны — заняўся рахункаводствам. За таварам прыходзілася нам ехаць на падводзе аж у Бельск. Неўзабаве адкрылі мы першую пякарню, мясабойню і сталовую. У гандлі працаваў я да вясны 1946 года, а затым накіравалі мяне ў гміну...

Адначасова з арганізацыяй дзяржаўнай адміністрацыі і вясковага гандлю распачынала ў Мілейчыцах дзейнасць ячэйка Польскай рабочай партыі. Андрэй Міхноўскі кажа, што першым яе сакратаром быў яго сваяк **Пётр Міхноўскі.** Дык за гэта яго бандыты забілі. Прыйшлі ў белы дзень, калі Пётр Міхноўскі не спадзяваўся ніякай бяды. Быў заняты працай на панадворку. Там яго і застрэлілі.

Міхноўскага падмяніў **Тэадозій Янушэвіч,** хаця ведаў, што і яму гэта пагражае смерцю. Калі не мог ужо вытрымаць бандыцкага знуткавання, пераехаў ён разам з сям'ёй у Савецкі Саюз. Тады дзейнасцю мілейчыцкай партыйнай арганізацыі пакіраваў **Уладзімір Бартнічук** з вёскі Левашы, які цяпер з'яўляецца чыгуначнікам.

— І нам, — уздыхае Андрэй Міхноўскі, — банды не [illegible] напсавалі крыві. Некалькі раз разбівалі і грабілі нашы крамы, абкладвалі нас штрафамі.

Сярод ахвяр бандыцкага тэрору знайшоўся таксама рабочы мілейчыцкай кафлярні **Дзям'ян Баравік.** Пра яго забойства расказаў мне 91-гадовы пенсіянер, былы кафляр, **Станіслаў Герасімюк.**

— Пане, — гаварыў дзядуля, — гэта быў добры, адважны чалавек. Яшчэ ў даваенны час смела выступаў у абарону рабочых. І тады, у першыя гады пасля вызвалення, быў першым памочнікам дырэктара кафлярні **Станіслава Рапацкага.** А забілі яго ў час танцавальнай забавы, забілі за тое, што быў партыйным актывістам.

Цяпер сын Дзям'яна Баравіка — **Уладзімір Баравік** з'яўляецца ўжо палкоўнікам Людовага Войска Польскага. Таксама сын Астапковіча, **Яўгеній,** даслужыўся афіцэрскіх зорак. А і дзеці Андрэя Міхноўскага зусім нядрэнна ўладзіліся ў жыцці. Самы старэйшы яго сын, **Ігар,** працуе юрыстам у Беластоку, а наймалодшы (чацвёртае дзіця ў сям'і) яшчэ вучыцца. Народная ўлада стварыла роўныя магчымасці жыццёвага авансу для ўсіх сваіх грамадзян.

**Віктар Рудчык**

